*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# НАША СЛОВА




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 17 (1428) 24 КРАСАВІКА 2019 г.**

# З Вялікаднем, дарагія беларусы!

## Хрыстос уваскрос!

**Хрыстос уваскрос!**
**і свет прачнуўся**
**вясной на голлечку бяроз.**
**Ударыў звон на Беларусі:**
**Хрыстос уваскрос!**
**Хрыстос уваскрос!**
**Хрыстос уваскрос з крыві і болю,**
**каб светач праўды не пагас.**
**Васкрос Ён для крывіцкіх сёлаў,**
**васкрос Ён, брацці, і для нас.**
**Так будзем помніць мы ў кайданах,**
**падняўшы сэрцы ўгару,**
**што так, як Бог ускрыжаваны,**
**уваскрэсне наша Беларусь!**

*Ларыса Геніюш, 1954 г.*



# Алена Анісім ініцыюе закон аб дзяржпадтрымцы беларускай мовы



Дэпутат Палаты прадстаўнікоў, старшыня грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" Алена Анісім прапануе ўключыць у план разгляду законапраектаў на 2020 год праект закона "Аб дзяржаўнай падтрымцы беларускай мовы". Адпаведны зварот яна накіравала 18 красавіка ў Нацыянальны цэнтр заканадаўства і прававых даследаванняў (НЦЗПД). Як паведаміла парламентарый БелаПАН, пытанне аб уключэнні законапраекта ў план на наступны год знаходзіцца ў кампетэнцыі менавіта гэтага цэнтра.

ISSN 2073-7033



Акрамя НЦЗПД копіі праекта закона Анісім накіравала ў Адміністрацыю прэзідэнта, Савет міністраў і Міністэрства юстыцыі "для вывучэння і кампетэнтнай ацэнкі". Пры гэтым яна патлумачыла, што Саўмін мае паўнамоцтвы, каб падключыць да абмеркавання яе прапановы іншыя кампетэнтныя органы. У суправаджальных лістах, якія змяшчаюць абгрунтаванне неабходнасці разгляду і прыняцця гэтага законапраекта, яна зрабіла акцэнт на пунктах Кодэкса аб культуры і Канцэпцыі інфармацыйнай бяспекі, якія падкрэсліваюць важнасць беларускай мовы.

- У мяне як у дэпутата ёсць паўнамоцтвы для таго, каб ініцыяваць разгляд такіх законапраектаў, гэта мае права заканадаўчай ініцыятывы, - адзначыла дэпутат. - На разгляд прапановы дзяржорганам адводзіцца максімум 30 дзён, але я спадзяюся, што атрымаю адказы раней. <… > Калі праект закона будзе прыняты да разгляду, дык пазней трэба будзе стварыць рабочую групу ў Палаце прадстаўнікоў, якая зоймецца удасканаленнем і ўдакладненнем праекта закона для таго, каб яго прыняць. У гэтым выпадку, вядома, хтосьці будзе накіраваны ў склад групы з адпаведных ведамстваў. ...Я па натуры, вядома, аптымістка, але без ружовых акуляраў. Надзея [на станоўчы адказ з боку дзяржорганаў] у мяне слабая, але тым не менш я думаю, што ў выніку гэтага і ўсіх наступных крокаў, штодзённай працы змены ў стаўленні да беларускай мовы будуць адбывацца.

Раней парламентарый заяўляла БелаПАН аб намеры дамагацца, каб у бюджэт краіны на 2020 год было закладзена фінансаванне ў рамках распрацаванага ТБМ праекта закона, які прадугледжвае меры па дзяржаўнай падтрымцы беларускай мовы. Тэкст законапраекта "Аб дзяржаўнай падтрымцы беларускай мовы" ТБМ апублікавала ў газеце "Наша слова" і на сваіх сайтах у лістападзе мінулага года. У дакуменце замацаваны абавязак дзяржавы спрыяць павышэнню моўнай культуры грамадзян, ствараць умовы для захавання дыялектаў, помнікаў пісьменства беларускага народа, забяспечваць фармаванне і развіццё беларускай тэрміналогіі для ўсіх галін навукі, сфер дзяржаўнай дзейнасці і гаспадаркі. Апрача таго, на дзяржаву ўскладзена адказнасць за падтрымку на прыярытэтнай аснове галін навукі, якія займаюцца даследаваннем беларускай мовы, а таксама за падтрымку выдання навуковых і папулярных прац у пытаннях беларускай мовы. Прэзідэнт, згодна з дакументам, мусіць дасканала валодаць беларускай мовай, ставіцца да яе, як да "нацыянальнай святыні і дзяржаўнай каштоўнасці", карыстацца ёю не менш чым рускай, а ўсе ягоныя ўказы павінны выдавацца на абедзвюх дзяржаўных мовах.

Законапраект таксама ўтрымлівае нормы па забеспячэнні дзяржаўнай падтрымкі беларускай мовы Нацыянальным сходам, Саветам міністраў, Нацыянальнай акадэміяй навук, шэрагам міністэрстваў: адукацыі, культуры, інфармацыі, працы, спорту і турызму, гандлю, транспарту, абароны, унутраных спраў, юстыцыі, а таксама пагранічным і мытным камітэтамі, Камітэтам дзяржбяспекі, Белтэлерадыёкампаніяй ды іншымі дзяржаўнымі структурамі. Шэраг абавязкаў па падтрымцы і пашырэнні ўжывання беларускай мовы ўскладзеныя на органы мясцовага кіравання і самакіравання, прадпрыемствы, установы, арганізацыі, палітычныя партыі і грамадскія аб'яднанні. Кантраляваць выкананне гэтага закона прапануецца дэпартаменту беларускай мовы пры прэзідэнце, які мусіць быць адмыслова створаны для гэтай мэты.

***belapan.by.***

# Зянону Пазьняку - 75



**Зянон Станіслававіч Пазьняк** (нарадзіўся 24 красавіка 1944 году, в. Суботнікі Іўеўскага раёна) - беларускі палітык і грамадскі дзяяч, адзін з заснавальнікаў Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" і Мартыралогу Беларусі, старшыня Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі - БНФ, археолаг, мастацтвазнавец, празаік, паэт. Кандыдат мастацтвазнаўства (1981). Аўтар амаль сотні навуковых, палітычных і культуралагічных артыкулаў, выдаў больш за дзясятак кніг і брашур.

Зянон Пазьняк нарадзіўся ў сям'і старэйшага сына заходнебеларускага грамадскага дзеяча Янкі Пазьняка. У снежні 1944 года асірацеў праз гібель бацькі на фронце, якога забралі ў Чырвоную армію ўлетку. Сярэднюю школу скончыў у роднай вёсцы. У 1967 годзе скончыў мастацтвазнаўчае аддзяленне Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута па спэцыяльнасці тэатразнаўца. У 1969 годзе змясціў у маскоўскай газеце "Праўда" артыкул супраць зносу гістарычна каштоўнай забудовы Менска, што змусіла ўлады захаваць Траецкае прадмесце, Верхні горад і Ракаўскае прадмесце. У 1972 годзе скончыў аспірантуру пры Інстытуце этнаграфіі, мастацтвазнаўства і фальклору Акадэміі Навук Беларусі. У 1981 годзе ў Ленінградзе абараніў дысертацыю "Праблемы станаўлення і развіцця беларускага прафесійнага тэатра пачатку XX стагоддзя (1900-1917 гг.)".

У 1988 годзе адкрыў для беларускай і сусветнай грамадскасці і правёў археалагічныя даследаванні масавых пахаванняў людзей у Курапатах, расстраляных органамі НКВД.

З траўня 1990 года па студзень 1996 года - дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання, кіраўнік дэпутацкай Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце. Быў чальцом канстытуцыйнай камісіі Вярхоўнага Савета БССР і Рэспублікі Беларусь 12-га склікання. Пад кіраўніцтвам Пазьняка здзяйсняліся такія важныя справы, як адкрыццё праўды беларусам пра маштабы Чарнобыльскай катастрофы (1989-1990), вяртанне нацыянальнай сімволікі (бел-чырвона-белага сцяга і Пагоні), распрацоўка сацыяльна-эканамічнага заканадаўства, якое стварыла аснову незалежнасці краіны, вярнула беларусаў з "гарачых кропак" СССР. На патрабаванне дэпутатаў Апазыцыі БНФ 24 жніўня 1991 была скліканая нечарговая сесія ВС, на якую дэпутаты БНФ пад кіраўніцтвам Пазьняка вылучылі пакет законапраектаў аб вяртанні незалежнасці Беларусі. 25 жніўня 1991 года Вярхоўны Савет прагаласаваў за наданне Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце статусу канстытуцыйнай сілы, што азначала вяртанне незалежнасці Беларусі.

26 сакавіка 1996 года, унікаючы магчымых арышту і фізічнага знішчэння, пакінуў Беларусь разам з Сяргеем Навумчыкам.

Пазьняк захаваў беларускае грамадзянства, усе гады на эміграцыі займаецца палітыкай і апошнім часам літаратурай. Кіруе КХП-БНФ.

***Вікіпедыя.***
***Здымак Марыюша Кубіка.***

# НАША ІМЯ

Што агульнае паміж беларускай дзяўчынай **Валяй Крук** з вёскі Гадуні і англійскім навукоўцам XVIII ст. **Робертам Гукам**?

Што яднае беларускую пісьменніцу **Таісу Бондар** і амерыканскага актора **Гары Купера**?

А чым падобныя беларускі паэт **Паўлюк Трус** і бразільскі пісьменнік **Паўла Каэлью**?

У кожнай пары гэтых людзей аднолькавыя прозвішчы, а ў двух апошніх супадаюць нават імёны.

Так, па-англійску *"гук"*- скажонае *hook /хук/* - гэта па-беларуску *"крук"*, англійскае *cooper* па-нашаму *"бондар"*, а партугальскае *coelho*, гэта нашае *"трус"*. А імёны *Паўлюк* і *Paulo* - гэта нацыянальныя варыянты вельмі пашыранага агульнахрысціянскага імя *Павел*.

І ўжо што вядомае і любае многім імя англійскага прэм'ер-міністра - цяпер нябожчыцы- *Маргарэт Тэчэр* - дык і тое па-нашаму значыць *"пярліна страхар"*. (Пэўна, нехта з продкаў ейнага мужа крыў саломаю ці чаротам хаты.) Але ж яе ніхто не заве *"пярліна страхар"*!

Такіх прыкладаў, хоць гаць гаці. Скажам, салодкая парачка: амерыканская прыгажуня акторка *Элізабет Тэйлар* і беларускі нацыяналіст *Макар Краўцоў*, то бо па-нашаму *Лізавета/Лізка/ Альжбета Кравец* (*Альжбета* - з яўрэйскай *"мой Бог пакляўся"*) і *Макар* (з грэцкай *"шчаслівы"*) *Краўцоў*. (А шчэ кажуць, што іхнія замежныя прозвішчы "прыгажэйшыя". Ды такія ж, як і ўнас!) Праўда, *Норма Бэйкер -"Пекар"* па-нашаму - палічыла сваё прозвішча дужа простым і переназвалася *Мэрылінай Манро*. Англійскі антраполаг *Найджэл Барлі* (як перакласці, то *Ваяр Ячмень*) напісаў цікавую кніжку пра сваю працу ў Камеруне. Майго аднакласніка завуць *Валодзя Зялёны* (успомнім англійскага пісьменніка *Грэема Грына*, што таксама *"зялёны"*). *Гордан Браўн (Тупы Карычневы)* быў прэм'ерам Вялікабрытаніі. А канцлер Германіі *Коль (Качан)* вядомы ўсёй Еўропе. Дарэчы, і ў Беларусі ёсць прозьвішча *"Качан"*. От бачыце, у іх, як і ў нас: ад капусты да бараноў.

А вось амерыканскі астранаўт *Алан Шэпард = Пастух* не пагрэбаваў свам прозвішчам і даказаў, што і пастухі могуць пабыць на Месяцы.

Практычна ўсе ведаюць яшчэ аднаго *"пастуха"* - французскага біёлага *Луі Пастэра*. Гэта ж ён прыдумаў працэс, які дапамагае захаваць працяглы час прадукты і тым самым моцна паспрыяў нашаму жыццю. А прозвішча ягонае, па-французску *pasteur*, значыць *"пастух"* /з лацінскага слова *pastor*, аднакарэннага нашаму *"паша"*, *"пасьціць/ пасвіць"* /.

У нас, беларусаў, пастух - гэта бядняк і гаротнік. У многіх іншых народаў - гэта пачэсны занятак.

Мяне завуць *Мікалай Бусел -"народ-пераможца + бусел"*. Вялікага італьянскага паэта звалі *Тарквата Таса - "нашыйнае ўпрыгожанне" + барсук*. Такое ж прозвішча мае жыхарка вёскі Дубровы *Тамара*. А мой сябар з Кобрына - *Аляксандр Мех*. У Італіі *Sacco- мех*. Гэта прозвішча нявінна забітага амерыканскім судом анархіста. Вось так.

Многім ведама спявачка *Патрысія Каас. "Каас"* па- нашаму *"сыр"*.

Ага! У скандынаваў ёсць пашыранае імя *Б'ёрн*. Ды шчэ з прозвішчам *Б'ёрнсан*.

Перакладўшы, мы атрымаем *Мядзведзь Мядзведзеў* (*Б'ёрнсан* = сын мядзведзя). Ну, што, будзем перакладаць?

Вакол беларускіх імёнаў і прозвішчаў існуюць беспадстаўныя непаразуменні і спрэчкі. Выкліканы яны ўласным няведаннем і імперскім націскам Расеі.

Неяк на пошце ў в. Кабыльшчына - па-цяперашняму Палессе- пасылаючы дачцэ паштовы перавод я папрасіў работніцу ў адрасе напісаць карэктна імя маёй дачкі - *Вольга*. (Вядома, што хоць паводле Канстытуцыі наша беларуская мова ў нас дзяржаўная, чынавенству латвей карыстацца чужой, каланіяльнай расейскай, адпаведна і тэлеграф у нас небеларускі, а прыстасаваны да расейскіх імперыялістаў і іхніх служак.)

Нейкая жанчына, што стаяла тамака, запярэчыла, што трэба пісаць *"Ольга"*.

Я спрабаваў давесці, што імёны ўласныя не перакладаюцца, але, жанчыне, мабыць, было дзікавата, што гэта так і яна пайшла з сваім перакананнем.

Так, імёны ўласныя не перакладаюцца. Ні людскія, ні гарадоў, ні мясцовасцяў.

Па простай прычыне: каб не было блытаніны. А часам і з немагчымасці перакладу.

Ёсць, праўда, нешматлікія выключэнні. Таму яны і выключэнні, што нешматлікія.

Усім ведамы *Ціхі акіян*, *Жоўтае/ Белае/Чырвонае/ Чорнае мора*. Багата якія мовы маюць для гэтых аб'ектаў свае, перакладныя назвы. У іспанцаў гэта будуць *el oceano Pacifico, el mar Amarillo/ Blanco/ Rojo/ Negro*, у англічан, амерыканцаў ды іншых англамоўных гэта *the Pacific ocean, Yellow/ White/ Red/ Black sea*.

Але назву ракі *Хуанхэ* практычна ніхто не перакладае як *"Жоўтая рака"*. На карце так і пішуць *Рыа Негра*, ці *Рыа Салада* не падаючы першае як *"Чорная рака"* і другое як *"Салёная рака"*. Штат *Тэхас* - украдзены ў Мексікі ў XIX ст- (як цяперака Крым у Украіны) - па-англійску ён гучыць як *"тэксас"*, а па-іспанску як *"тэхас"* (што можа значыць *"чарапіца, страха"*) кожны імянуе яго на свой манер. Назву многіх гарадоў *Кансэпсьён* ніхто не перакладае як *"зачацце"* і не мудрагеліць, перакручваючы іх на свой капыл. І ніхто не называе *Пакістан "чыстай краінай"* - так перакладаецца гэтае слова. Такіх прыкладаў процьма. Возьмем той жа *Кот д'Івуар*, які раней быў вядомы як *Бераг Слановых Іклаў*. Але вырашылі не перакладаць, а пісаць французскія словы сваімі літарамі.

А не перакручваюць па простай прычыне: калі б назвы і імёны ўласныя перакладалі кожны па-свойму, то нельга было б сказаць, хто ёсьць хто і што - што. То бо імёны і назвы перайшлі б у разрад звычайных агульных назоўнікаў, страцілі б сваю адметную вызяляльную ролю.

Калі б імя пісьменніка-бразільца перакладалі па-беларуску, то ўжо маючы аднаго *Паўлюка Труса* аніяк без нейкіх дадатковых слоў - *Паўлюк Трус Беларускі?/ Паўлюк Трус Бразільскі?* што ў такім разе сталі б часткай імені!- (параўнай: *Генрых Трэці, Генрых Чацьвёрты, Генрых Мараплаўца, Мікалай Першы*) нельга было б сказаць, каго мы маем на ўвазе. (Па праўдзе *Генрых Трэці* і *Генрых Чацьвёрты* ніякія не *генрыхі*, а *Henry, Генры*, а *Генрых Мараплаўца* па-сапраўднаму *о infante D. Henrique -"інфанці дон Энрыкі"*, празваны *Henrique o Navegador "энрыкі навэгадор"* - то бо імя перайначылі, а мянушку пераклалі.)

Па нашы прыклады не трэ нікуды хадзіць. Калі ў Дуброве было тры *Колі Буслы*, то разабрацца было проста: адзін меў мянушку *"Мімік"*, другі - *"Унук"* ці *"Куплёнік"*, трэці - *"Маёрчык"*.

Так і называюць у нефармальнай гаворцы *"Коля Мімік", "Коля Куплёнік"*, апускаючы афіцыйнае прозвішча. А то і проста *"Мімік", "Куплёнік", "Маёрчык"*. То бо мянушка перайшла ў разрад імя. Так яно было ўсюды і заўсёды. Слова *"цэзар"*, як пішуць старыя аўтары - гэта пунічнае /карфагенскае/ слова значыла *"слон"*. Кажуць, што нейкі цэзараў продак пад час вайны з Карфагенам зарэзаў у бітве баявога слана - храбры быў страшэнна! - (па-нашаму, падбіў танк), за што і атрымаў ганаровае званне.

А ведамы імператар *Клаўдзій* - ад яго пайшлі *"Клавы"*- гэта ад слова *claudus "кульгавы"*.

Ёсць выпадкі варварскага перайначання. Так, можа хто памятае з школьнага курса англійскага караля *Карла*. Але такога не было! Быў *Чарлз*. Праўда ж, ніхто ж не абзывае *Чарлза Дыкенса Карлам Дыкенсам*? Не было ў Англіі караля *Іаана Беззямельнага*, а быў *Джон Лэкланд*. Гэта прыклад непатрэбнага блытанага перакладу.

І такіх бракованых прыкладаў хапае. Так, мянушку рускага цара *Івана Жахлівага* (па -руску *"Грозный"*) перакладаюць, а вось назву чачэнскага горада-героя *Грозны*, што ў 94 годзе аказаў гераічны адпор рускім крыжакам, не перакладае - Божа барані!- ніхто.

Але вернемся да беларускіх імёнаў. Беларусы, як і ўсе, прыстасоўвалі чужыя словы -імёны пад сваю фанетыку. Так, у беларускай мове няма гука "Ф"- усе словы з гэтым гукам- чужыя. Таму і існуюць у нас *Нічыпар, Тэкля/ П'ёкла, Хвядора/ Тадора, Хведар/ Тодар, Яўхім*, тады як іншыя, у тым ліку і рускія, старанна захоўваюць грэцкае "ф" - *Никифор, Фекла, Федора, Фёдор, Ефим* з грэцкіх *перамоганосец, паклікаsucc Богам, дарунак Божы*, (гэта славянская калька - *Багдан*, то бо *Багдан* тое ж што і *Хведар*!); *з добрай славай* і пад.

У выпадку з *"Ольгай"* - скандынаўскае *helga - "святая"*, рускія замест *"е"* прамаўлялі націскное *"о"*. У беларускай мове *"о"* заўсёды націскное, але з яго, за рэдкім выключэннем - зірніце ў слоўнік на літару *"О"* - не пачынаецца ніводнае слова. У такі разе беларуская мова ўжывала прыстаўны гук *"в"- "возера, восень, воддаль"*. Таму і беларуская форма скандынаўскага слова *"Вольга"*. Скажыце, чым яно горшае за нямецкае ці іспанскае *Olga* і за рускае *Ольга*?

У дзяцей часам выклікаюць смех - (з-за адсутнасці ведаў у гэтай галіне, іх, нажаль, не дае школа, а павінна б!) - такія старадаўнія і мілыя жаночыя імёны як *Агапа, Домна* (гэтая жанчына жыла ў Дуброве), *Гарпіна, Сынклета*. *Агапа* - гэта грэцкае *"Любоў"*, *Люба* па-цяперашняму. *Домна* не мае анічога агульнага з жалезаплавільнай печчу. Гэта лацінскае *domina - "гаспадыня, пані ў сваім доме"*. (Слова *domina* паходзіць ад *domus - хата, дом*). Такія ж дабраякасныя мужчынскія імёны *Яўтух* - з грэцкага *эфтіхос - шчаслівы*, *Язэп/Есіп/ Іосіф* з стараяўрэйскага *"ўзгадаваны Богам"*, ці *Гаўрыла*- таксама адтуль, *"чалавек Божы"*.

Кожны народ прыстасоўваў пазычаныя імёны пад сваю фанетыку і мову. Зямнога бацьку Збаўцы звалі па-нашаму *Язэп*, часам *Іосіф - ф!*, нават *Ёсіп*. Італьянцы ведаюць яго як *Giuseppe - Джузэпэ*, іспанцы як *Jose, Хасэ*, англічане як *Joseph, Джозэф*. Як бачыце, усім можна мець сваю форму імя, от толькі беларусамне. Так думаюць расейскія каланізатары і іхняе тутэйшае падхвосце. Мы ж думаем іначай: няма чаго дагаджаць чужынцам, трэба карыстацца сваім, яно нам лепшае і мілейшае.

Канешне, частка калабарацыяністаў ці нацыянальных расцякоў па-авечаму дазваляе калечыць на расейскі манер сваё імя і прозвішча, якое нам дадзена нашымі продкамі.

Вось вазьміце якога-небудзь тутэйшага па прозвішчы *Кохна*. Раней ён быў *Вася/Уладзімір/Мікалай Кохна*, цяперака яны ўжэ *Вася/Уладзімір Кахно*. (Адбылося гэта гадоў 40 таму пасля наплыву да нас расейцаў, якім былі нязвычныя нашы імёны, і яны перакручвалі іх на свой капыл.) *"Пакрасівела" прозвішча, данежне!* Багата людзей з прозвішчам *"Дайнека"* сталі *"Дайнеко"*. Я нідзе не знайшоў правіла, па якім канцовае *"а"* беларускага прозвішча мусіць перадавацца па-расейску праз *"о"*. Думаю, сам *Мікалай/ Уладзімір Кахно* гэтага не ведае. (Але і не пратэстуе супраць гвалту з свайго прозвішча.) Я, праўда, здагадваюся, чаму. Расейскім імперыялістам трэба хутчэй перахрысціць беларусаў у рускіх, таму ручкамі тутэйшых "грамацеяў" яны пазбаўляюць беларусаў іхніх беларускіх форм беларускіх імёнаў. Як кажуць, нішчаць нашу нацыянальную ідэасінкразію.

Ні ў якім разе нельга дапускаць скажэння сваіх імён. Перадача імён і назваў з аднае мовы на другую робіцца па пэўных правілах праз транслітарацыю, то бо літара за літару. Пры такім спосабе захоўваецца арыгінальная форма імя, а як яго будзе чытаць турак ці араб, немец ці партугалец - гэта іхняя справа. А будуць яны чытаць па правілах сваёй мовы. Хай так чытаюць і рускамоўныя начальнікі. Язык не апухне.

Яшчэ адно ліха - гэта наданне дзецям чужынскіх імёнаў. Даўней імя давала царква, і багата імёнаў было паводле святых, што прыпадалі на той дзень. Святы быў як бы заступнікам чалавека. Бацькі ж, паважаючы продкаў, давалі дзецям імёны продкаў таму імя пераходзіла з пакалення ў пакаленне, бы эстафета. Цяперака моцна страчана пачуццё роду, "пароды", як кажуць, і маладыя мамы і таты, узгадаваныя на бязмозглым тэлевізары, выбіраюць "модныя" чужыя нам імёны, забываючы, што часам імя вызначае лёс чалавека, не думаючы, як імя будзе ўспрынята іншымі людзьмі, як яно будзе гучаць у сталым веку, у старасці. Сэнсавае напаўненне імя мяняецца з часам. Нездарма ў ладнай колькасці народаў была традыцыя перамены імя з узростам. (Часткова яна існуе і ў нас.





Малога і падлетка можна назваць *Коля, Міколка*. Дарослага мужчыну звычайна завуць "дарослым" імем *Мікалай*. ) А ў нас жа імя зафіксавана пісьмова на ўсё жыццё. Таму і выбіраць трэба сваё, беларускае. Імя ўласнае - гэта яшчэ і гістарычны дакумент, пазнака-маркер часу, месца. То і абазначаць сябе трэба беларускімі іменамі як беларусаў.

Часам чалавек успрымае сваё прозвішча як "непрыгожае". Тады ён спрабуе неяк змяніць яго, каб яно гучала "прыгажэй". Самы часты метад - гэта перанос націску, каб "сцерці" сэнс слова. Так *Каваль* робіцца *"Ковалем"*, *"Чарвяк" - Чэрвякам*, а *Баран - Боранам*. Ну, ніяк савецкі генерал-палкоўнік, намеснік міністра абароны па раскватараванні войск *Камар* не мог быць дробным камаром. Толькі *Комарам*! Генерал-палкоўнік *Комар*! /Цікава, ці памяняў бы ён прозьвішча, калі б яно было *"Слон"* ці *"Мамант"* ці "Мастадонт"?/ Перанос націску- у нас ён графічна не пазначаецца- фактычна мяняе прозвішча, ствараe новае слова. Параўнай: *вораны* / *звараны*/- *вараны* /вялізныя яшчаркі/- *вараны* /чорны - пра каня. (Тую ж ролю выконвае падваенне зычных -*"дрэна"*- *"дрэнна"* і процістаўленне па цвёрдасці/ мяккасці; *"стол"*- *"столь"*.) Фармальна і фактычна гэта ўжо зусім іншыя словы. Гонячыся за "прыгажосцю" людзі крыўдзяць сваім рэнегацтвам сваіх продкаў, якія годна пражылі з сваімі прозвішчамі, не дбаючы пра сэнс. (Быў у Іспаніі старадаўні шляхецкі род *Кабэса дэ Вака - Кароўская Галава*, па-нашаму. Дарма, жылі і ганарыліся сваёй фаміліяй. А вось нейкая беларуская "зорка" па прозвішчы *Кішка* дужа саромелася свайго імя, бо, абрусеўшы, успрымала яго на расейскі манер *"кішк**а**"*. Дазнаўшыся, што пабеларуску ў слове націск падае на першы склад - "*к**і**шка*", абруселая дама супакоілася, як той *"чэрвяк"* ці *"боран"*. Між іншым, дама паходзіць з старадаўняга магнацкага роду *Кішак*. Ёй бы ганарыцца, а яна носам верне.

Яшчэ адзін прыклад "падвышэння" статусу імя. Быў у Мікуль-Гарадку чалавек па прозвішчы *Шпакоўскі*. Усе навокал былі амаль выключна *Шпакі*, а ён *Шпакоўскі*. Аказваецца, дзед гэтага "*Шпакоўскага*", маючы прозвішча *Шпак*, выпрасіў у пана права пісацца на шляхецкі манер *"Шпакоўскі"*. Пан такое права даў, але *Шпак* мусіў за гэта цэлы год працаваць на пана бясплатна. На якія пакуты не пойдзеш, каб быць прыгажэйшым!

Між імён уласных існуе шчэ адна катэгорыя слоў- тапонімы. Гэта назвы мясцін, урочышч, сёл, гарадоў. Гэта асобная цікавая тэма.

Кожнае такое імя - гэта ГІСТАРЫЧНЫ ДАКУМЕНТ. Таму мяняць іх - гэта фальшаваць гісторыю. Вось чаму змены назваў паселішч у прынцыпе недапушчальныя. Калі гэта і робіцца, то ці па дурасці і бязграматнасці, ці з ліхімі намерамі, з далёкасяжным прыцэлам. Менавіта з такімі ліхімі намерамі расейскія каланізатары і іхняе падхвосце памянялі ў Беларусі багата нашых назваў, даўшы ім "красівейшыя" для рускага вуха. Так, беларускі горад *Прапойск* - з старажытнага *Прапошаск* - перахрысцілі ў "Слаўгарад". Сяло *Кабыльшчына* стала *"Палессем"*, *Кадаш* стаў *"Мікалаеўкай"*, а *Сіняўка* - ужо не *Сіняўка*, а *Пятровічы*.

Беларускія урбонімы - гарадскія назвы - густа акупаваны бальшавіцкімі акупантамі. Яны паназывалі іменамі сваіх ідалаў, камуністычных забойцаў, вуліцы, плошчы, раёны. Унь у Каленкавічах застаўся ўвесь набор бальшавіцкіх ідалаў: тут і Маркс з Энгельсам, і Фрунзе, і Калінін, і ўсё такое. Буяюць розныя ўрыцкія, свярдловы, дзяржынскія, леніны ды іншая паганая парахня. Час вымесці гэтае смецце з нашае тапанімікі.

І шчэ адна бяда. З падвышэннем энергаўзброенасці сельскай гаспадаркі трактары ды экскаватары непазнавальна змянілізнішчылі традыцыйны пейзаж. Гэта грубае парушэнне экалагічных правіл, адно з якіх патрабуе захавання прывычнага людзям ландшафту. Разам з ім знішчана традыцыйная фаўна і флора, а таксама назвы ўрочышч, месц, куточкаў. Зніклі рэперы і межы, што рознілі адну мясціну ад іншай. На добры лад трэба запісаць і паказаць на картах гэтыя мясціны і іх назвы, бо кожная назва - вялікая моўная каштоўнасць.

І яшчэ адна пошасць. Калі чалавек памрэ, ягоныя родныя хапаюцца паставіць яму надмагілле. І ніхто не дбае, каб на тым камяні было напісана беларускае імя нябожчыка. Такую важную справу аддаюць на сваволле пісарам з рытуальных кантор. А тыя ведама якія грамацеі. Вось чаму амаль не сустрэць на беларускіх могілках беларускіх надпісаў і імён. Гэта непавага да нябожчыка, непавага да свайго роду, сваёй нацыі. Гэта наша нацыянальная ганьба. То, калі вам выпадзе такая гаротная нагода - абавязкова пазначайце ў заказе, што надпіс павінен быць беларускі і падавайце беларускі тэкст. Неабходна слупаваць сваё!

Трэба берагчы свае імёны і назвы - мы іх атрымалі ад продкаў, і за імі шматвекавыя традыцыі. Калі іх страцім, то па-просту выпадзем з гісторыі.

Вось што стаіць за драбніцай - нашым імем. Шануйма сваё беларускае, бо яно ўнікальнае, і нідзе болей такога няма. Толькі ў нас!

***Мікалай Бусел.***

# Беларуская мова - гарант гуманітарнай бяспекі краіны



*15 красавіка адбылася сустрэча Алега Трусава і Алены Анісім са слухачамі курсаў "Мова нанова" ў Рэчыцы.*

*Тэма заняткаў - "Беларуская мова - гарант гуманітарнай бяспекі краіны".*

*Старшыня ТБМ, дэпутат Алена Анісім у сваім выступе сканцэнтравала ўвагу на дзейнасці арганізацыі, на выкліках для нашага грамадства і рэагаванні на іх.*

*В.а. рэктара Універсітэта імя Ніла Гілевіча Алег Трусаў распавёў пра справы з падрыхтоўкай да ліцэнзавання,прадэманстраваў выданні, зробленыя будучымі выкладчыкамі.*

*А. Анісім і А. Трусаў адказалі на розныя пытанні прысутных, сярод якіх гучалі і такія, што датычацца будучых палітычных кампаній.*

***Наш кар.***

# За беларускую Гародню

1. Паважаныя сябры, ініцыятыўная група бацькоў (Хільмановіч і іншыя) праявіла выдатную актыўнасць і зрабіла добрую справу для нашага горада. Атрымалі дазвол на адкрыццё новай (5-й па ліку ў Гародні) беларускай групы ў дзіцячым садку № 83 (вул. Ліможа, 8) Ленінскага раёна.

Загадчыца садка Пышынская Алена Францаўна, тэл. 68-54-07.

Сфармаваную рознаўзроставую (3-4 гады) беларускую групу загадчыцы садка трэба прадставіць да 1 чэрвеня ў аддзел адукацыі, фармаванне групы можа быць да 30 жніўня. Але ўжо на 2 красавіка 2019 года з дапамогай сяброў ТБМ (адказная Карповіч Наталля) група фактычна сфармавана - больш за 15 чалавек. Усіх жадаючых задаволіць пакуль няма магчымасці ў садка, асабліва, калі ўзрост дзіцяці больш за 4 гады. З 2019 года ў Ленінскім раёне Гародні для бацькоў з'явілася магчымасць выбару з 2 садкоў (№ 45 і № 83), дзе ёсць беларускія групы.

Падтрымайма маральна і матэрыяльна новую групу на Дзевятоўцы!

2. Паважаныя сябры, пачынаюцца бацькоўскія сходы для будучых першакласнікаў у школах і выпускныя бацькоўскія сходы ў групах дзіцячых садкоў. Штогод патрэбна Ваша дапамога ў справе папулярызацыі беларускага навучання перад бацькамі (выступ да 10 хвілін). Выступы дазволены.

У найлепшыя часы (3-4 гады назад) да нас далучалася да 15 чалавек і мы былі ў 75% школ горада. Бацькі і настаўнікі засталіся ўдзячны пасля выступаў на сходах Святлане Марозавай, Аляксандру Астроўскаму, Святлане Маразевіч, Аляксею Пяткевічу, Івану Будніку, Вітаўту Парфёненку, Ігару Кузьмінічу, Наталлі Карповіч, Валянціну Лучко, Алесю Крою, Уладзіміру Хільмановічу, Янку Курчэўскаму, Святлане Тарасавай, Аляксандру Краўцэвічу, Але Петрушкевіч, Вікторыі Янчарскай, Эміліі Комар і іншым.

На жаль, некаторыя стаміліся, нехта не бачыць хуткіх станоўчых вынікаў, у іншых дзеці ўжо дарослыя, але справу жывой папулярызацыі мовы працягваць неабходна. У гэтым большасць радных цвёрда перакананa. Пасля шматгадовай жывой папулярызацыі мовы і навучання бацькі і настаўнікі пачалі нашмат з большай павагай ставіцца да першай дзяржаўнай мовы ў параўнанні з першымі паслярэферэндумнымі гадамі.

Таму чакаем Вашай шчырай дапамогі. Каму патрэбны матэрыялы для выступу - пішыце нам.

Усе радныя ТБМ і папулярызатары мовы мінулых гадоў могуць абраць школы і гімназіі для выступу ў сваіх раёнах пражывання, працы.

Ці сфармуем у гэтым годзе паўнавартасныя беларускія групы ў садках і беларускія класы ў СШ 32 і СШ 34, залежыць ад жадання бацькоў і нашай жывой папулярызатарскай працы.

120 гарадзенскіх сем'яў на 2019 год ужо абралі для сваіх дзяцей беларускую мову. І гэта не толькі беларусы!

Пішыце.

З павагай,

радныя ТБМ, каардынатары па горадзе

**Алесь Крой** (школы, Вэлкам-943-58-09),

**Наталля Карповіч** (садкі, МТС-265-86-80),

эл. пошта: tbm.garodnia@tut.by.



**На здымку:** дзеткі садка №83.

№ 17 (1428) 24 КРАСАВІКА 2019 г. НАША СЛОВА

# Суботнік у Суботніках

Напярэдадні Вялікадня патрыёты Лідчыны ў чарговы раз завіталі ў вёску Суботнікі Івейскага раёна на радзіму вядомага палітыка, выбітнага беларуса і нацыянальнага лідара Беларусі - Зянона Станіслававіча Пазьняка.




Пабывалі на яго бацькоўскай сядзібе, якая іх высілкамі падтрымліваецца ў годным стане. Наведалі мясцовыя могілкі, дзе 7 год





таму (22 красавіка 2012 года) нашла свой вечны супакой маці сп. Зянона Пазьняка, Ганна Яўхімаўна. Прыбралі магілку і надалі помніку прыбавы вонкавы выгляд, запалілі зніч.

24-га красавіка Зянону Станіслававічу спаўняецца 75 год. У сувязі з гэтым патрыёты Лідчыны вітаюць яго і шчыра віншуюць з Днём нарадзінаў! Зычаць моцнага здароўя, бадзёрасці і творчага плёну. А таксама перадаюць шчырыя словы падзякі за ўсю плённую працу ў беларускай справе, якой ён працягвае аддаваць сябе дзеля будучыні Бацькаўшчыны!

*Наш кар.*

# КУЛЬТПАХОД НА ВЫЦІНАНКУ

Выстава выцінанкі ў Нацыянальным гістарычна-культурным музеі-запаведніку "Нясвіж" вельмі актуальная на сёння, калі дэкларуем вяртанне да "сваіх каранёў" і шанаванне нацыянальных набыткаў, калі трапляем падчас у недарэчныя сітуацыі ад няведання сваёй культурнай спадчыны, ад прафесійнай непадрыхтаванасці і дылетанцкага наскоку ў паказе роднага. Таму сябры Нясвіжскага ТБМ з удзячнасцю прынялі запрашэнне на адкрыццё выставы вядомай майстрыхі Дар'і Алёшкінай "Куфэрак выцінанак". Украінка са Львова па ўсім свеце (Францыя, ЗША, Паўднёвая Карэя, Польшча) прэзентуе даўняе народнае мастацтва праз яго сучаснае бачанне.



Наведнікі выставы наколькі заміловаліся незвычайнымі творамі, настолькі ж дапытваліся пра дэталі і тэхніку выканання, сюжэты выцінанак, спалучэнне ў іх традыцыйнага з аўтарскім. Цікавіла адрозненне беларускай выцінанкі ад украінскай, адметныя асаблівасці выцінанак іншых суседніх народаў. Цешыла высокая ацэнка беларускіх - а гэта, як адзначыла аўтарытэтная майстрыха, вышэйшы пілатаж!



Прыгадвалася са сведчанняў нашых маці, бабуляў, што даўней і ў нясвіжскіх ваколіцах ў многіх сялянскіх хатах бытавала вясковая аўтарская выцінанка. Мела яна дэкаратыўна-прыкладное прызначэнне. Зазвычай пад вялікія святы - найчасцей пад Нараджэнне Хрыстова - у нясвіжскага крамніка набывалі паперу і выразалі з яе фіранкі на вокны, сурвэткі на палічкі. Займаліся гэтым пераважна маладыя дзяўчаты, пераймалі ўзоры адна ў адной. Которая старалася прыдумаць і на свой густ, каб быў лепшы за суседскі. Захоўваліся тыя папяровыя карункі, як у каго - да вясны ці ўсё лета. А праз год зноў прыходзіў святочны час выцінанак.

Размова, што пачалася ў выставачнай зале палаца, па дзівосным збегу абставін прадоўжылася і пасля. Атрымалася так, што вечарам у адной і той жа маршрутцы зноў сустрэліся гаспадыня выставы і наведніцы: Дар'я Алёшкіна ехала ў Менск, а Валянціна Холадава і Галіна Ярашэвіч, сяброўкі Нясвіжскага ТБМ - у Новы Свержань. Гэтыя актыўныя, грунтоўна дасведчаныя ў пытаннях культуры і гісторыі жанчыны, сталі для госці з Украіны экскурсаводамі па родных ваколіцах, што мільгалі за вокнамі. Распавялі пра адметна каштоўны гістарычны тапонім Гавязна, пра блізкую радзіму Якуба Коласа, не прамінулі згадаць Адама Міцкевіча і падзякаваць жыхарам Львова за густоўны помнік беларуска-польскаму паэту, пачынальніку славянскага рамантызму.

…Так і доўжыўся, як любяць казаць дыпламаты, дыялог культур. Найлепшы дыялог, бо дыпламатыя была грамадская, жывая, шчырая.

*Наталля Плакса,*
*Нясвіж.*

# Атракцыйныя формы культурнага адпачынку

Адзін дзень у красавіку бібліятэкі сталіцы адчыняюць свае дзверы на папулярызацыйную акцыю пад назвай "Бібліяноч". Разнастайныя мерапрыемствы прайшлі ў бібліятэках навучальных установаў Менска і ў Нацыянальнай бібліятэцы.

Чароўны алмаз ведаў ззяў увечары ўсімі колерамі вясёлкі. Пасняхова былі заахвочаны да інтэрактыўных заняткаў маладыя сем'і з дзецьмі, студэнты і школьнікі. Арганізатарам удалося стварыць прыязную атмасферу адпачынку, пазнаёміць з рознымі чытальнымі заламі, з кніжнымі навінкамі.

У зале беларускай літаратуры праходзіла пазнавальная віктарына "Не маўчы па-беларуску". Музей кнігі прапанаваў падарожжа ў краіну кніжных скарбаў.





У галерэі "Лабірынт" праходзіла выступленне фальклорнага ансамбля народнай музыкі "Шчодрыца", ансамбля народнай песні "Гаманіна" і калектыва "Дзятлаўскі падлесак". Дзяўчат і маладых жанчын прывабілі майстар-класы па пляценні паясоў, вырабе лялек-абярэгаў.

Рабіць велікодныя паштоўкі-выцінанкі вучыла дзяўчат сябра Саюза майстроў народнай творчасці Наталля Гамаюнава. Адбылася творчая сустрэча з кампазітарам Алегам Моўчанам. У кінаклубе прайшло спатканне з рэжысёрам-кінадакументалістам Галінай Адамовіч. Для маленькіх дзейнічала зона чытання казак "Кніжка пад падушку" і творчая майстэрня малявання. Для дарослых былі арганізаваны лекцыі псіхолагаў і трэнінгі. Усе наведвальнікі акцыі атрымалі шмат карыснай інфармацыі і засталіся задаволенымі.

*Эла Дзвінская,*
*фота аўтара.*





*Навіны Германіі*

# Залаты вопыт для залатога ўзросту

Міжнароднае асветнае грамадскае аб'яднанне "АКТ", на працягу 2017-2019 гг., пры падтрымцы нямецкага фонду "Памяць, адказнасць і будучае" рэалізоўвала праект "Залаты вопыт для залатого ўзросту", скіраваны на падтрымку людзей пажылога ўзросту, а таксама тых асобаў, што пацярпелі ад нацыянал-сацыялісцкіх рэпрэсій. Напрыканцы мінулага тыдня прайшла выніковая канферэнцыя, якая сабрала больш за 50 чалавек, і не толькі удзельнікаў праекту, а і грамадскіх актывістаў і ініцыятываў з розных




тычна. Хаця і наш асабісты досвед працы з пажылымі людзьмі сведчыць пра тое, што, нягледзячы на ўзрост, і будучы ўцягнутымі ў грамадскія справы, яны паляпшаюць свае сацыяльнае самаадчуванне і якасць жыцця, а арганізуючы розныя мерапрыемствы - падтрымліваюць адзін аднаго ў цяжкіх сітуацыях, абменьваюцца інфармацыяй і карыснымі парадамі, не губ-



Больш за 20 арганізацыйудзельніц праекту падчас трэнінгаў і абменных візітаў вывучалі лепшыя практыкі падтрымкі і актывізацыі людзей пажылога ўзросту, змаглі падвысіць эфектыўнасць сваіх паслуг і ўкаранення ў дзейнасць сваіх арганізацый і ініцыятываў новых форм і метадаў працы з гэтай сацыяльнай групай.

А я, як заўсёды, калі ёсць магчымасць быць удзельніцай такіх сустрэч, задаюся пытаннем: чаму ў нашым раёне, горадзе, багатым на людзей пажылога ўзро-

арганізацый Беларусі, і я мела магчымасць пачуць пра цікавы вопыт працы з людзьмі, якія вядуць актыўны лад жыцця. Удзельнікі праекту з розных рэгіёнаў Беларусі распавялі пра вынікі праекту, дасягненні і поспехі, расказалі пра тое, як арганізуюць адпачынак і навучанне людзей "залатога ўзросту", аказваюць сацыяльныя паслугі тым групам, якія маюць у гэтым патрэбу, падтрымліваць дыялог пакаленняў.



Да выніковай канферэнцыі МАГА "Акт" падрыхтавала зборнік паспяховых практык з людзьмі пажылога ўзросту, які прэзентавала на канферэнцыі. Гэта - клуб "Возраст в действии", курс па іміджы і стылі для жанчын "60+," праца ініцыятыўнай групы пажылых людзей "Дом без одиночества", студыя дакументальнага кіно, "Зялёная тэрапія", "Тёплый дом", "Компаньонство", "Творчество - это жизнь" для людзей з дэменцыяй і абмежаванай мабільнасцю і інш. А для мяне гэта стала яшчэ раз важкім пацверджаннем таго, які патэнцыял маецца ў катэгорыі "пажылыя людзі", да якой мы, чаго граху таіць, ставімся некалькі скеп-

ляюць цікавасці да жыцця.

У другой частцы канферэнцыі трэнеры У. Корж, М. Лаўдо, М. Падбярозкін правялі тры майстар-класы па такіх накірунках дзейнасці грамадскіх арганізацый і ініцыятываў, як "патрэбы", "валанцёрства" і "фінансы", на якіх больш падрабязна пазнаёміліся з формамі і метадамі працы з пажылымі людзьмі, якія даюць магчымасць зрабіць паслугі для прадстаўнікоў старэйшага пакалення больш эфектыўнымі і разнастайнымі, дапамогуць распачаць ці развіць працу з гэтай мэтавай групай.

сту з рознымі інтарэсамі, здольнасцямі і магчымасцю нешта зрабіць не толькі для сябе, але і для іншых людзей, няма ніякай цікавасці з боку тых структур, якія па абавязку службы павінны больш цесна і плённа працаваць з гэтай групай? Я не бяру ў разлік афіцыйныя запланаваныя мерапрыемствы "з нагоды…", калі патрэбна паставіць "галачку".

На канферэнцыі прысутнічалі прадстаўніцы нямецкага фонду ""Памяць, адказнасць і будучае".

***Валянціна Болбат,***
*ТБМ, Верхнядзвінск.*

*Навіны Германіі*

# На Вялікдзень у царкве ў Германіі прагрымеў выбух, пацярпелі 24 чалавекі



У ноч з суботы на нядзелю, пад Вялікдзень, у Мюнхене, прагрымеў выбух. Па паведамленнях паліцыі, мусульманін увайшоў у царкву і, выкрыкваючы "Алах Акбар", падарваў піратэхнічныя вырабы.

У царкве Святога Паўла ў Мюнхене на велікоднай службе знаходзілася каля 500 чалавек. Паколькі некаторыя наведвальнікі царквы кінуліся наўцёкі, і паўстала паніка, 24 чалавекі былі траўміраваны. Паліцыя арыштавала віноўцу здарэння.

Гэты інцыдэнт не быў своечасова асветлены СМІ ў Германіі. Інфармацыя ў нямецкіх СМІ пра яго з'явілася толькі пасля таго, як відэа былі распаўсюджаны ў сацыяльных сетках.

***Навіны Германіі.***

# Мода з куфра на Вялікдзень

13 красавіка ў гістарычным цэнтры Гародні адбылося рэгіянальнае свята-кірмаш "Гарадзенскія традыцыі да Свята Вялікадня". Народныя майстры прадставілі традыцыйныя сувеніры з лазы, саломы, дрэва, тканыя ходнікі, плеценыя кошыкі ды іншыя. Але сапраўднай перлінай свята стала дэфіле ў народных строях "Мода з куфара на Вялікдзень", удзельнікі якога прадэманстравалі традыцыйныя рэгіянальныя строі.





Падчас свята можна было паўдзельнічаць у майстар-класах народных майстроў па вырабе велікодных вербаў, сапоцкінскіх пісанак, навагрдскай выцінанкі-выбіванкі, ткацтве ды іншых. А сапраўды святочны настрой стварылі фальклорны гурт "Талер" з Ліды ды дзіцячы калектыў "Васілёчкі" з Жытоміі, які затанчыў старадаўнюю кадрылю.

***Беларускае Радыё Рацыя, Гародня.***

## Беларусаў запрашаюць на "Агульную дыктоўку"

1 чэрвеня ў Беларусі пройдзе масавая "Агульная дыктоўка" па беларускай мове. Напісаць яе можна будзе дома альбо ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Маштабная ініцыятыва прымеркавана да 400-годдзя выхаду "Граматыкі" Мялеція Сматрыцкага - кнігі, якая больш за 200 гадоў была вядучым выданнем па славянскай філалогіі, паведамілі ў кампаніі "Лідскае піва", якая з'яўляецца арганізатарам праекта. Напісаць дыктоўку можа любы ахвочы незалежна ад узросту і роду заняткаў. Каб стаць удзельнікам, трэба зарэгістравацца на старонцы праекта і ў пазначаны час далучыцца да сотняў беларусаў, якія будуць пісаць дыктоўку на роднай мове. Сёлета арганізатары забяспечваюць радыётрансляцыю дыктоўкі на хвалях радыёстанцыі "Культура" (102,9 FM у Менску, 88,5 FM у Брэсце, 99,3 FM у Віцебску, 91,5 FM у Гомелі, 95,0 FM у Гародні, 99,1 FM у Магілёве). Прамая трансляцыя пачнецца а 12 гадзіне аднасасова са стартам дыктоўкі ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Для праверкі трэба будзе адправіць сваю працу праз форму на сайце lidskae.by. Правяраць усе дыктоўкі будуць прафесійныя філолагі. Арганізатары звяртаюць увагу, што выпраўленні будуць улічвацца на карысць ўдзельніка. Вынікі дыктоўкі стануць вядомыя праз 5-7 рабочых дзён, і кожны ўдзельнік атрымае электронны сертыфікат аб удзеле. Арыгінал тэксту дыктоўкі будзе апублікаваны на старонцы праекта, каб кожны мог праверыць свой вынік.







*Да 156-годдзя паўстання 1863 г.*

## *Апалонія з Далеўскіх Серакоўская*

# Успаміны

*(Працяг. Пач. у папяр. нумарах.)*

Серакоўскі першы збірае кола каля сябе, уплыў яго невымерны. Ад хвілі, калі яго не стала ... кола развалілася, але бліжэйшыя да яго калегі не перасталі працаваць. Вяртаецца з Арэнбурга з шырокай, вялікай, далёка сягаўшай праграмай: аўтаномія на Бацькаўшчыне праз наданне свабодаў, канстытуцыйнага права ва ўсёй дзяржаве. Настаюць часы рэформ. Супрацоўнічаюць пры Серакоўскім Агрызка, Спасовіч, Балтазар Каліноўскі, а таксама найвыбітныя сілы ў Расіі.

У той жа час у Краі па вёсках і гарадах літоўскіх без заклікаў, без дэкламацый вядзецца ціхая, мурашкавая праца. Сярод шляхты напярэдзе Ромеры, жонка Ендрэя Снядэцкага, Клімянскія, Лапацінскія, Вагнер, Ян Тышкевіч, Напалеон Яленскі, Эміль Аскерка, Козелы і шмат іншых. Моладзь, якая думае больш сур'ёзна, пабуджае да карыснай дзейнасці сваіх бацькоў і ўсю супольнасць. Яшчэ больш рух на Літве з'яўляецца пасля вяртання выгнанцаў з Сібіры і з арыштанцкіх рот. У той час прыбыў у Вільню з Іркуцка Аляксандр Далеўскі.

Маршалкі ў 1858 годзе ў апошнія месяцы года склікаюць шляхту. На супольнай нарадзе ўхваляюць неабходнасць стварэння губернскіх камітэтаў з мэтай падрыхтоўкі праектаў дзейнасці. На сесіях спрачаюцца, радзяцца. Большасць шляхты за вызваленне сялян з-пад прыгону. Губернатары ствараюць цяжкасці. Шляхта на Літве, нягледзячы на гэта, пастанаўляе адмяніць прыгон на падставе царскага рэскрыпту (праводзіць, нічым не бянтэжачыся).

Натуральна, ёсць асобы, якія апануюць, кіруюцца эгаістычным інтарэсам, аднак пад націскам думкі ў Краі, ужо моцна пашыранай, далучаюцца да агулу, які жадае падаць просьбу да цара пра адмену паншчыны і наданне свабоды прыгонным.

У палове 1858 і [18]59 г. настаюць часы небывалага руху на Літве. Пецярбург гаворыць пра рэформы. Верыць у іх. І Літва за яго прыкладам цешыцца, як бы ў дзень досвітку шчаслівых часоў. Верыць у магчымасць жыцця пад скіпетрам найшляхетнейшага з цароў Аляксандра ІІ. Паўстаюць шматлікія праекты выказвання яму сваёй лаяльнасці. Губ[ерна-тар] Назімаў падае свой праект прыёму цара яркім балем. Літва згаджаецца, але пад уплывам найвыдатнейшых у Краі асобаў, а менавіта выгнанцаў (менш лёгкаверных) дадае ад сябе - падача цару адраса, у якім выказвае свае жаданні, г.зн. аб вызваленні ад прыгону сялян, аб увядзенні ў пачатковых школах польскай мовы, або той, на якой размаўляе мясцовае насельніцтва, аб рэлігійнай талерантнасці і аб універсітэце ў Вільні.

Пад уражаннем разбуджанай веры ў шляхетнасць і справядлівасць Аляксандра ІІ хочуць яшчэ апрача балю выдаць яркі альбом на памяць пра яго быт-насць. Стары Адынец зусім траціць галаву, пішучы свой "Ойча наш", у якім цара называе дзедзічам Ягелонаў. Горад упрыгожваецца, асвяжаецца, малююць транспаранты, двухгаловых арлоў і г.д.

Назімаў на вестку пра праектаваны адрас і яго змест забараняе шляхце прыезд у Вільню ў час побыту цара. Аднак маршалкі, карыстаючыся належнымі ім правамі, збіраюцца ў Вільні ў Дамейкі, віленскага маршалка, з мэтай паразумецца з паданнем адраса. У гэтай праблеме найчыннейшымі былі: Ромеры і Ян Тышкевіч.

Дамейка дае слова, што сам яго ўручыць імператару, але ў пярэдадзень прыезду цара маршалкі нідзе яго знайсці не могуць. Занепакоеныя падаюцца да цывільнага губернатара Хамінскага, пра якога былі добрыя водгукі ў Краі. Той ім гаворыць, што Дамейка адначасова даў ім слова, што адрас падасць, а Назімаву, што адрас зусім не будзе пададзены.

У хвілю агульнага абурэння Ромер вымаўляе памятныя словы: "Урад робіць вялікую памылку, адкідваючы шчыры зварот літоўскай шляхты, якая прадстаўляе неабходныя патрэбы Краю, задавальненне якіх ёсць адзіны сродак забеспячэння шчасця і спакою народа. Паколькі ўрад адпіхвае, мы не бяром на сябе адказнасці за наступствы. Выканаем наш абавязак. Нягледзячы ні на што верым, што народ наш жыве і жыць будзе!"

Ромер прамовіў ад імя кола маршалкаў, якія рэпрэзентавалі Край. Маршалкі падалі адрас, адрэдагаваны, па змесце вельмі сціплы, просячы толькі ўніверсітэт, аднак цар прыняў іх словамі, якія абурылі ўсю Літву: "Скажыце шляхце, што я ёю вельмі незадаволены. Няхай яна памятае і Еўропа, што гэта не Польшча!"

Словы гэтыя ўпалі на Літву ў хвілі веры большасці яе грамадства ў дабрыню яго і справядлівасць.

У той час вярнуўся з Сібіры Францішак Далеўскі. (Аляксандр быў у Вільні з год.) Сабраныя маршалкі, з якіх многія дзесяць гадоў назад яшчэ маладзёнамі належалі да Братняга звязу, паразумеліся з ім на зборы ў Яна Тышкевіча і запрасілі на больш шматлікія з'езды ў Ковенскай губ[ерні] у Рудаміны ў Панікштах, у Менскай у Яленскага ў Дамайчыцах і ў Віленскай у Лапацінскага.

На пачатак кожная губ[ерня] ставіла на чале двух найўплывовейшых чалавек з грона абывацеляў, якія б пастаянна паміж сабой маглі раіцца для кіравання губерняй, а ў кожным павеце - па два найбольш вядомых і на якіх цалкам можна было б разлічваць, бо праз іх якраз мелі быць пашыраны прынцыпы і думкі. Першым найпільнейшым заданнем арганізацыі было:

1) Справядлівае і хуткае развязанне сялянскай праблемы (не можа быць поўнага паразумення і ўплыву на чалавека ў няволі).

2) Земляробчае таварыства на ўзор Каралеўства Польс[кага] з мэтай пад'ёму земляробства, а таксама для лягчэйшага ўзаемапаразумення.

3) Крэдытнае таварыства.

4) Школкі. (Тут кожны грамадзянін быў абавязаны выбраць у сваёй вёсцы найздольнейшага хлопца з сумленнай сям'і і прысланць яго ў горад. Абавязкам гарадской арганізацыі было памясціць яго у вядомага сумленнем і польскімі прынцыпамі рамесніка, а моладзі прысвяціць свае вольныя хвілі на навучанне вясковай дзетвары; рамяству вучыліся б у таго ж рамесніка). Гэтым спосабам праз кароткі час вёскі нашы мелі б у сваім коле патрэбных рамеснікаў, а разам і настаўнікаў, калі не яўных, то тайных у асобах тых жа рамеснікаў.

Гэтая праца не павінна была ніколі перапыняцца. Вынікі яе на Літве праявіліся ў час першых выбараў у Думу ў адказе таго ж літоўскага мужычка: "Не зямлі нам больш, а ваш розум патрэбны".

Думку сумеснай няспыннай працы падаў Францішак Далеўскі, але Край наш любімы быў яе выканаўцам. У хуткім часе ўся Літва арганізавалася, а бачачы неабходнасць пастаяннага паразумення па прапанове Францішка ўстанавіла Цэнтральны Камітэт, які складаўся з Францішка Далеўскага (Аляксандр ужо памёр), Антонія Яленскага, Аляксандра Аскеркі, Ігнацыя Лапацінскага і Аскара Вагнера. Край ажывіўся, цешыўся надзеяй працы, хоць павольнай, але карыснай. Арганізаваўся, выбіраў людзей даверу. Колы і колкі пашыралі маральнасць, лад, ашчаднасць, устрымanасць, веды і працу. Мэта - свабода Бацькаўшчыны. Каб дайсці вынікова да гэтай мэты, утрымаць грамадства ад змоваў і заўчасных паўстанняў.

Нягледзячы на мірную дзейнасць, палітычная агітацыя пастаянна ўзрастае.

З некаторых універсітэтаў моладзь высылае сваіх дэлегатаў у Варшаву на штогадовы збор Зем[ляробчага] т[аварыства]. Многія са шляхты туды падаюцца, нягледзячы на перашкоды з боку губернатараў, з-за чаканых забурэнняў у Варшаве..

Неўзабаве прыйшла адтуль вестка пра варшаўскія падзеі і першыя іх ахвяры 15/27 лютага 1861 года. Вестка тая страсянула ўсю Літву і апранула яе ў жалобу, нягледзячы на пагрозы Назімава, што ўсякае праяўленне спачування да тых падзей будзе ўладамі сурова карацца. Чыноўнікі трацяць пасады; моладзь выдаляецца з навуковых устаноў.

Напэўна больш балючай за першую была вестка, атрыманая неўзабаве пасля гэтага, пра роспуск Земляробчага таварыства.

У той самы час, г. зн. у 1861 годзе па загадзе цара ў першыя дні студзеня маршалкі збіраюцца ў губернскіх гарадах для выбару чальцоў для вясковых спраў.

Сялянская рэформа праведзена ўдачна. Ажыццяўлялася на Літве першая галоўная задача.

Устаноўлены губернскія ўправы, пасярэднікі (сакратаром на Ковенскую губерню быў прызначаны Тадэвуш Корзан). Наогул выбар людзей быў задавальняльны. Грамадскую працу Літва вяла з запалам. Моладзь працуе супольна і сваёй гарачай верай у пасспяховасць той працы пабуджае іх да энергічных дзеянняў старэйшых, марудных у працы агулу.

У тым жа годзе ў траўні 1861 г. праяўляецца пачатак нашага ва ўсіх вымярэннях трагічнага паўстання 1863 года.

У дзень св. Станіслава ў Віленскай кафедры падчас пад'ёму раздаўся спеў гімну "Божа, што ж Польшча", выкананы моладдзю, якая прыбыла пераважна з-за мяжы. У тым ліку былі Бенедыкт Дыбоўскі, трое Ліманоўскіх: Люцыян, Баляслаў і Юзаф, Карэва, Зыльвяровіч і іншыя, прозвішчаў якіх не памятаю. Пасля набажэнства ўсе вышэй пералічаныя былі арыштаваныя. Натоўп, пераважна жанчын, падаўся да Назімава, патрабуючы вызвалення вязняў. Дэманстрацыя скончылася мірна без кровапраліцця.

Ад таго часу па ўсёй Літве распачаліся спевы, дэманстрацыі, якіх ужо ніхто і ніштó не магло стрымаць.

У ліпені 1861 года сабраўся шматлікі з'езд шляхты ў Вільні з мэтай канчатковай падрыхтоўкі праекта Крэдытнага таварыства, а разам для прыняцця супольнай праграмы дзейнасці ў сувязі з пашыраючымія дэманстрацыямі. Што да Крэдытнага таварыства Варшава дала свае парады, прыслаўшы двух вельмі разумных чалавек: Ўратаноўскага і Клабукоўскага. Статут, як сцвярджалі, быў выдатна складзены, але зацверджання ўрадам не атрымаў.

За колькі дзён перад 6 жніўнем пачала кружыць па Вільні пагалоска пра прыбыццё працэсіі з Варшавы. Спачатку ніхто з жыхароў Вільні гэтаму не верыў, аднак пагалоска ўпарта паўтаралася.

Хто быў яе аўтарам? Адкуль пайшла? З якой мэтай? Пыталіся ў сябе.

Напярэдадні азначанага дня расейцы, начальнікі ўстаноў і дырэктары школ раніцай апавясцілі пагрозу: "З-за пэўнасці, што набліжаецца працэсія з Варшавы, паведамляем вам, панове, што калі б нават прыбылым не хапала харчоў або памяшкання, а вы б паспяшаліся да іх з дапамогай, будзеце выдалены з устаноў, а вучні са школ".

Ад той хвілі зніклі ўсякія сумненні ў галовах нашай сумленнай людскасці. Пяклі, смажылі, чысцілі свае жытлы, каб прытуліць змораных, згаладнелых варшаўякаў.

6 жніўня ад паўдня цягнуліся незлічоныя натоўпы ў бок Пагулянкі, несучы з сабой харчы. Дарэмныя былі перасцярогі, дарэмныя заклікі, што гэта падступства ўраду, што хочуць іх сабраць у адным пункце для арганізацыі пагрому безабаронных, каб адбіць віленцам раз на заўсёды ахвоту да дэманстрацый.

Абураны натоўп адкідаў перасцярогі, прымаючы іх за галасы паліцыі.

Раптам з бакавых вуліц у месцы, дзе многа гадоў назад адбылася экзекуцыя Канарскага, войска пачало акружаць і сціскаць найбольш зграмаджаных людзей.

Разідаліся выстралы, секлі палашамі, білі прыкладамі.

Крык, енкі, заклікі: "Не аддаваць маскалям параненых і забітых!" Нягледзячы на біццё, народ бароніцца, не дае.

У першыя дні новага 1962 года ўведзены ў жыццё Надаўчы ліст.

У некаторых мясцовасцях сяляне выказвалі гатоўнасць адрачыся ад усялякіх выгадаў за наданне ім шляхецтва (разумеючы напэўна ў шляхецтве небіццё палкамі, незбытканне кожнага над хамам, нездаванне ў рэкруты і да т.п.). Жмудзіны асабліва.

У іншых, як у кн. Агінскага сяляне не хацелі ніякіх змен, прасілі, каб іх пакінулі ў спакоі, так упарадкаваных, як датуль жылі. Рэтаўшчына Агінскага была сапраўдным аазісам. Агінскі з зацятасцю ўзяўся за справу ашчаслівлення сваіх прыгонных, а меў іх звыш 10 тысяч мужчынскіх душ (так у той час лічылі прыгонных).

Пачаў сваю справу з адшукання ласкаў двара, узяў замуж Каліноўскую, даму двара імператрыцы.

Іменаваны шамбелянам. Прадставіў імператару Мікалаю свае добры як бунтоўныя, прасякнутыя свабодалюбівымі прынцыпамі, якія аказваюць згубнае ўздзеянне на суседнюю люднасць.

Пераканаў імператара ў неабходнасці аддзялення іх і пра свае добрыя намеры вывесці сваіх прыгонных на правую дарогу.

Пасяліўся сярод свайго люду. Першым, у выключным парадку, атрымаў права адмены ў сябе паншчыны. Увёў гмінныя ўправы, заснаваныя на галасаванні.

Як войт, абраны гмінай, кіруе ёй, закладвае банкі ўкладаваашчадныя ці пазыкавыя, пазбаўляе свае добры ад рэкруцкага набору за выплату 300 рублёў з гміннай касы, будуе для войска казармы (не памятаю, на якой адлегласці ад сваіх вёсак) з тым, каб нага жаўнера ніколі не ступіла ў яго валасці. Закладвае крамы, базары, склады прыпасаў, майсэрні сельскагаспадарчага начыння і г.д., уводзіць устрыманні.

*(Працяг у наст. нумары.)*

# Выйшлі 100 кніг пра 100 выдатных дзеячоў беларускай культуры. Без дзяржаўнай падтрымкі

Завяршылася праца над кніжнай серыяй "100 выдатных дзеячаў беларускай культуры". З гэтай нагоды Свабода пагутарыла з аўтарам ідэі, заснавальнікам, каардынатарам і рэдактарам праекту - навуковым сакратаром грамадскага Інстытута беларускай гісторыі і культуры Анатолем Тарасам.

**Як узнікла ідэя**

Паводле Анатоля Тараса, публікацыя кніг серыі расцягнулася на 7 гадоў, да яе былі далучаны 30 даследчыкаў.



*Анатоль Тарас*

Першыя тры кнігі былі падрыхтаваны ў канцы 2012 года:

"Міхаіл Андрыёлі: беларускі мастак з Вільні" (аўтар Вітаўт Чаропка),

"Мітрафан Доўнар-Запольскі: бацька беларускай гістарыяграфіі" (Анатоль Тарас),

"Флярыян Ждановіч: творца беларускага тэатра" (Анатоль Тарас).

У красавіку 2019-га выйшлі пяць апошніх кніг серыі: "Уладзімір Жылка", "Аляксей Карпюк", "Генадзь Кісялёў", "Арсень Ліс", "Міхась Чарняўскі".

- Яшчэ гадоў 10 таму звярнуў увагу ў шапіках на выданне кшталту "Роман-газеты" (папулярны за савецкім часам часопіс), - кажа пра ідэю серыі Анатоль Тарас. - Гэта былі "100 выдатных дзеячаў Расеі". Зрэшты, той праект дачасна накрыўся - я цікавіўся, асілілі ўсяго трацціну. З'явілася думка: у нашым "Белсаюздруку" можна набыць кнігі пра расейцаў, а дзе выдатныя асобы Беларусі? Паглядзеў у адзін бок, у другі, і зразумеў: як хочаш убачыць - дык бяры і рабі. Вось так усё і пачалося...

У 2013 годзе было выдадзена 12 кніг па 1500 асобнікаў кожнай. Самым прадукцыйным аказаўся 2016-ы - адразу 25 выданняў. Пры гэтым наклады з году ў год падалі. А летась "Беларускі дом друку" істотна падвысіў кошт паслугаў, і серыя з бесприбытковай ператварылася ў стратную. Выдавецтва "Харвест", дзе друкаваліся кнігі, адмовілася ад супрацы. Апошнія два дзясяткі кніг былі выдадзеныя за ўласныя сродкі Тараса і ягоных паплечнікаў мінімальным накладам - 40 экзempляраў.




*Кнігі серыі*

**Чаму спыніліся на топ-100**

Анатоль Тарас усцешаны, што серыя, якая ў Беларусі не мае аналагаў, завершана, абяцанне перад чытачамі выканана. Ён кажа што пра палову герояў раней не толькі не выдавалі кніжак, пра іх рэдка калі згадвалася і ў газетах ці часопісах.

- Што тычыцца годных асобаў, можна набраць і 200, і 300, - працягвае Тарас. - Канешне, складана сказаць, хто найбольш выдатны, а хто на 20% не дацягвае, усё досыць суб'ектыўна. Але цікавых прадстаўнікоў літаратуры, мастацтва, дойлідства, музычнай культуры набіраецца некалькі сотняў. Нашмат большая праблема з аўтарамі: хто будзе пісаць, тым больш бясплатна? Я ад пачатку марыў: скончу першую сотню і буду працягваць далей. Але мусіў адмовіцца: крыніц фінансавання няма ніякіх.

Ці былі спробы звярнуцца па дапамогу ў дзяржаўныя ўстановы? Выглядае, што падобныя навукова-папулярныя выданні былі б карысным дадаткам для школьных ды студэнцкіх бібліятэк, дапаможнікам у працы даследчыкаў.

- Дзяржаўныя ўстановы робяць выгляд, што такой серыі не існуе і, як некалі трапна выказаўся філосаф Валянцін Акудовіч, нейкага там Анатоля Тараса таксама няма. Няма, вось і ўсё. Гэта толькі мне здаецца, што я ёсць і нешта раблю. Апошнія 20 кніжак выдалі па 40 асобнікаў, збіралі грошы з пенсій, з заробкаў, каб скончыць серыю. У аўтараў, крытыкаў кнігі будуць: 100 абзацаў - зрабілі. Але ў гэтым плане серыя скончаная, далей могуць быць мары, спадзевы, фантастыка, - падсумоўвае Анатоль Тарас.

**Хто аўтары**

Адпачатку меркавалася далучыць да праекту як найбольш адмыслоўцаў. Аднак некаторым дабрачынны характар працы астудзіў імпэт. Таму, кажа Анатоль Тарас, 100 кніжак зрабілі не 100, а 30 аўтараў.

Большую палову - 61 кнігу - напісалі чатыры чалавекі:

Анатоль Тарас (ён жа Анатоль Менскі) - 24,

Андрэй Мельнікаў - 17,

Алесь Марціновіч - 10,

Уладзімір Арлоў (кінарэжысёр) - 10.

У ліку іншых, чые прозвішчы значацца на вокладках:

Анатоль Астапенка (6),

Вітаўт Чаропка (4),

Ірына Шумская (3),

Аркадзь Падліпскі (2),

Леніна Міронава (2),

Сяргей Гваздзёў (2).

Па адной кнізе ў актыве 20 аўтараў:

Анатоль Валахановіч,

Андрэй Вашкевіч,

Яўген Гучок,

Зміцер Дзятко,

Настасся Зелянкова,

Алеся Лапо,

Леанід Лаўрэш,

Арсень Ліс,

Ігар Мельнікаў,

Вера Міцкевіч,

Антон Мялік,

Алесь Ненадавец,

Алесь Пашкевіч,

Аляксандар Тамковіч,

Алена Турава,

Кастусь Цвірка,

Святлана Шахоўская,

Янка Шутовіч,

Лія Кісялёва і Вольга Архіпава (суаўтары).

Паколькі пісалі розныя людзі, працягвае Анатоль Тарас, адны кнігі больш нагадваюць дапаможнікі для выкладчыкаў, іншыя - глыбокія даследаванні жыцця і творчасці.

**Як адбіралі герояў**

Былі, кажа Анатоль Тарас, і спрэчкі, ці абавязкова выдатныя прадстаўнікі беларускай культуры павінны мець беларускае паходжанне. Было вырашана: кожны творца, які плённа працаваў у гэтым краі, - беларускі дзеяч.

- Этнічнае паходжанне, сацыяльная прыналежнасць, веравызнанне, нават мова, на якой размаўлялі тыя выдатныя людзі, не маюць прынцыповага значэння, - лічыць Анатоль Тарас. - Галоўнае, што яны жылі і працавалі ў Беларусі, а сваю прафесійную і грамадскую дзейнасць прысвяцілі нашай краіне і яе жыхарам. Усё, што адбывалася на землях Беларусі ў кожны з перыядаў, - падзеі менавіта тутэйшай культуры. Значыць, кожны творца, які працаваў тут, ёсць беларускім дзеячам.



*Праспект серыі*

***Ігар Карней,***
*Радыё Свабода.*

## УДЗЯЧНАСЦЬ

Вячаслаў Васільевіч Якімаў, "Заслужаны юрыст Беларусі", былы старшыня Верхнядзвінскага суда, зрабіў мне чарговы падарунак - кнігу "Азярышча" з дарчым надпісам, якую адкрывае прадмова "Удзячнасць", і яна - пра родную Мову і Гісторыю.




"Бог даў долю пражыць дзяцінства, юнацтва і пачатак сталасці ў гэтым непаўторным краі, які зараз прыходзіць ў заняпад.

Абавязак удзячнасці да роднай зямлі - як мага болей даведацца пра яе гісторыю, каб сказаць землякам: *"Не! Мы не бязродныя, мы маем такую мінуўшчыну, якой трэба толькі ганарыцца".*

Узнікла пытанне: якой мовай карыстацца?

Нечакана гэта пытанне вырашыў мой дзесяцігадовы ўнук. На пытанне настаўніка: "Чаму трэба ведаць родную мову?", - адказаў: "Адмова ад яе -ганебная непавага да сваіх продкаў".

Ганаруся такім адказам.

Сапраўды, аб роднай гісторыі трэба апавядаць на роднай мове. Той самай, што "вызвалі-целі", або "старэйшы брат" забаранілі каля двух стагоддзяў таму, як і наша імя, нашу шматвекавую мінуўшчыну, веру, назву нашай дзяржавы. Менавіта такая забарона абумоўлена тым, што краіна з назвай Вялікае Княства Літоўскае на працягу некалькіх стагоддзяў з'яўлялася адной з мацнейшых і перадавых у Еўропе, а яе Канстытуцыя і законы доўгі час былі ўзорам для еўрапейскага заканадаўства.

Адраджэнне Гісторыі і Мовы - ганаровая справа кожнага, бо, як лічыцца са старажытных часоў, на годнасці і павазе да мінулага, да нашых вялікіх продкаў засноўваецца будучыня народа."

У анатацыі да кнігі ён напісаў, што гэта - *"Гістарычны нарыс, прысвечаны прыгожаму куточку на мяжы Беларусі і Расіі - малой радзіме аўтара. На старонках кнігі ў навукова-папулярнай форме апісана багатая на падзеі драматычная гісторыя краю з далёкай мінуўшыны да нашага часу".*

Першая кніга называлася "Успаміны аб вайне, пасля якой я нарадзіўся" і прэзентацыя якой на пачатку года прайшла ў Цэнтры для дзяцей і моладзі.

***Валянціна Болбат,***
*Верхнядзвінск, ТБМ.*



№ 17 (1428) 24 КРАСАВІКА 2019 г. Наша слова

*На літаратурнай хвалі*

# З усім, што хвалюе і натхняе

Днямі ў рамках чарговага паседжання літаратурнага аб'яднання "Суквецце" пры рэдакцыі "Лідскай газеты" адбылася прэзентацыя кнігі вершаў лідскага паэта Міхася Іванавіча Мельніка "З табою".



Міхась Іванавіч Мельнік родам з Магілёўшчыны (з вёскі Майсеевічы Асіповіцкага раёна). Вось ужо сорак пяць гадоў яго жыццё, творчасць, працоўная і грамадская дзейнасць цесна звязаны з Лідчынай. Тут ён працаваў у сельскіх школах, у СПТВ-55 механізацыі меліярацыйных работ, а найбольшы адрэзак часу - выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры ў Лідскім педагагічным вучылішчы (пазней - Лідскі каледж). Быў таксама перыяд працы наглядальнікам і вартаўніком у Лідскім гістарычна-мастацкім музеі.

Міхась Мельнік выдаў зборнікі вершаў "Скрыжаванне" (1996, у суаўтарстве з Пятром Чаборам), "Лодка жыцця" (2009), "З табою" (2019), з'яўляецца ўкладальнікам і рэдактарам анталогіі твораў лідскіх аўтараў аб беларускай мове "Шануйце роднае слова!" (2008, гэтаму зборніку няма аналагаў ні ў адным іншым горадзе Беларусі, акрамя Менска). Таксама выдаў інфармацыйны фотаальбом (сумесна з паэтам Леанідам Віннікам) пра вядомых людзяй Лідчыны канца XX - пачатку XXI стагоддзя "Время и судьбы" (2004), склаў буклет "70. Уладзімір Мельнікаў" пра таленавітага лідскіага мастака (2008). На многія вершы паэта напісаны песні.

Міхась Іванавіч - выдатнік адукацыі Рэспублікі Беларусь, пэўны час быў дэпутатам Гарадзенскага абласнога Савета дэпутатаў. З'яўляўся галоўным арганізатарам устаноўкі ў Лідзе помніка вялікаму беларускаму першадрукару і асветніку Францішку Скарыну (скульптар - Валяр'ян Янушкевіч, урачыстае адкрыццё помніка адбылося 25 ліпеня 1993 года). Будучы кіраўніком літаратурнага аб'яднання "Суквецце" пры рэдакцыі "Лідскай газеты", шмат намаганняў прыклаў да стварэння ў 2010 годзе літаратурнага аддзела Лідскага гістарычна-мастацкага музея. Перадаў з асабістага архіва ў фонд музея шмат матэрыялаў аб сваёй творчасці і творчасці некаторых іншых пісьменнікаў.



Нядаўна ў Лідскай друкарні, пры фінансавай падтрымцы Лідскага гістарычна-мастацкага музея, была выдадзена ў кішэнным фармаце трэцяя кніга паэзіі Міхася Мельніка "З табою". Рэдактарам кнігі і аўтарам прадмовы да яе з'яўляецца навуковы супрацоўнік музея, паэт, даўні сябар Міхася Іванавіча Алесь Хітрун. У прадмове Алесь вельмі ўдала раскрыў сэнс назвы новага зборніка: "З табою - гэта значыць з Беларуссю, з малой радзімай, з прынёманскім краем, з Лідай, з Францішкам Скарынам, з Валянцінам Таўлаем, з любімай жанчынай, са сваімі дзецьмі, унукамі і праўнукам, з сябрамі і з зацікаўленымі чытачамі". Ад сябе дадам: з усім, што хвалюе і цікавіць, што натхняе на напісанне вершаў.

Эпіграфам да ўсяе кнігі не выпадкова выбраны наступныя радкі паэта:

*А жыць так радасна і чыста,*
*калі ўсвядоміў сваю мэту,*
*калі аддадны запавету:*
*ў жыцці*
*быць вечным аптымістам!*

Сапраўды, вершы, прадстаўленыя ў зборніку, аптымістычныя, сонечныя, жыццесцвярджальныя, напісаныя чалавекам, які знайшоў сваё прызванне ў жыцці і заўсёды быў верны гэтаму прызванню. Як заўважыў хтосьці з прысутных на прэзентацыі кнігі, дэвіз творчасці Міхася Мельніка - "Мір, Жыццё і Мова!" Чытач знойдзе ў кнізе грамадзянскія, патрыятычныя, філасофскія, інтымныя, пейзажныя вершы. Многія з гэтых вершаў нарадзіліся ў сценах дома Таўлая (літаратурнага аддзела Лідскага гістарычна-мастацкага музея), калі Міхась Іванавіч працаваў там вартаўніком, многія былі надрукаваны на літаратурнай старонцы "Лідскай газеты".

Першыя чытачы зборніка адзначылі сакавітасць, натуральнасць беларускай мовы, на якой напісаны вершы, багацце вобразаў і мастацкіх сродкаў, кранальнасць твораў, іх глыбокую чалавечнасць.

- Бывае, некаторыя паэты здольныя, валодаюць формай, пішуць прыгожа, аднак па змесце іх вершы пустыя, як ёлачныя цацкі, у іх няма душы, глыбіні, дабрыні, спагады, святла, - гаварыў падчас прэзентацыі кнігі паэт Валерый Мацулевіч. - У вершах жа Міхася Іванавіча ўсё гэта ёсць, у іх прысутнічае тое, што называецца сапраўднай паэзіяй. І вельмі добра, што ў нас ёсць такія паэты.

***Наш кар.***



*Міхась МЕЛЬНІК*

**Родная зямля**

Пахнеш, як мама, ты сырадоем,
і кожны мне твой каласок
так знаёмы,
і кожная сцежка твая, і ручэй,
а дні без цябе -
нібы цемень начэй…
Але і ў расстанні - табою жыву,
таму я жыццём заўжды даражу.

**Пажаданне**

Усміхайцеся, людзі, часцей,
усміхайцеся светла, бясконца…
Не губляйце высокіх надзей -
і засвяцьцяць яны, нібы сонца.

Ахвяруйце парывы душы -
краю роднаму шчырыя песні,
а нашчадкам у мірнай цішы -
летуценні - як плёну прадвеснік.

Станьце шчодрымі сэрцам сваім
без пахвал для сябе і выгоды
і дзяліцеся ўсім дарагім…
Ды жывіце з любоўю і згодай.

Да прыроды вы будзьце бліжэй -
няхай радуе ў небе вясёлка…
І гарэць будзе як найдаўжэй
шчасця вашага ясная зорка!

**Вернасць**

Глыбока карэннямі
зросся з зямлёю
разлапы, прысадзісты дуб адзінокі,
пасаджаны некалі
продкам далёкім
у полі за ціхаю вёскай маёю.

Ён мохам, як футрам
шыкоўным, абшыты,
стаіць, нібы волат,
на роднай раллі…
І з месца яго не зварушыш
нічым ты -
Навекі ён верны
матулі-зямлі.

*Не ад Эзопа, а ад Язэпа*

## Сабачая казка

Жыў-быў воўк. Самы звычайны - звяруга. То авечку ўкрадзе, то цяля задушыць ці казу зарэжа. І кары яму ніякай. Усё сходзіла так, бо воўк быў пры пасадзе.

Аднойчы ён чымсьці не дагадзіў тыгру, і той нацкаваў на ваўка сабак. Наляцелі лягавыя знянацку, зграяю. Лапы - у вузел, хвост - да шыі, і - у вязню.

Паршывыя звяры ўмомант адшукалі саддзю-барана, аслапракурора, а следчы-ліс пачаў "шыць чорную справу белымі ніткамі".

Але размова не пра гэта.

Сабакі, якія некалі верна служылі ваўку, пільна сцераглі яго логава, калі іх гаспадар трапіў за краты, былі прызначаны тыграм сцерагчы яго там.

Яны добра выконвалі сваю сабачую службу. Бывала, то хвост ваўку дзвярыма прышчэмяць, то на лапу абцасам наступяць, то ў баланду нагадзяць альбо адно далікатнае месца ў ляшчаткі возьмуць. Акрамя таго сабакі вырвалі ў ваўка іклы, каб ён не агрызаўся, і карцар-лядоўню ён зведаў, як уласнае логава.

А аднойчы два Бобікі, напіліся ўшчэнт і да паўсмерці збілі ваўка.

Сабакам тыгр тады ўсё дазволіў.

Праўда, сярод іх быў адзін Тузік, які спачуваў ваўку: іншы раз лішнюю гадзіну дасць паспаць ці баланды болей налье, а то і ліст на волю да родных перадасць.

Воўк нікому не скардзіўся, бо ведаў, што на тыгра ўправы не знойдзеш. І здавалася яму іншы раз, што не пабачыць ён белага свету ніколі, але…

Аднойчы слон - правадыр звяроў - атрымаў скаргу-ананімку на тыгра, у якой прамым іншым - тыгр таксама быў не "цаца" - паведамлялі і пра беззаконне, якое тварылася адносна ваўка. Слану гэта было на руку, бо ён не меў ласкі на тыгра і даўно хацеў звесці яго са свету.

Тыгра пасадзілі ў турму, у тую самую камеру, дзе сядзеў воўк, а ваўка вызвалілі і прызначылі на пасаду тыгра.

Але казка не пра гэта…

Воўк не стаў караць сваіх катаў-сабак, бо добра разумеў, што ніякая ўлада не абыходзіцца без сабачых паслугаў, а наадварот, узнагародзіў косткаю ўсю сабачую зграю. І прызначыў сцерагчы тыгра. Толькі Тузіка, які добра ставіўся да яго, звольніў з працы і паслаў пільнаваць свіран ад пацукоў.

***Язэп Палубятка.***

Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік

**Заснавальнік:** ТБМ імя Францішка Скарыны.
**Пасведчанне аб рэгістрацыі** № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
**Адрас рэдакцыі:** 231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
**Адрас для паштовых адпраўленняў:** 231282, г. Ліда-2, п/с 7.
**E-mail:** naszaslowa@tut.by



http://nslowa.by/ http://naszaslowa.by/
http://pawet.net/ http://kamunikat.org/
http://tbm-mova.by/ http://belkiosk.by/



Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Выдавец: Установа інфармацыі "Выдавецкі дом ТБМ".
Газета падпісана да друку 22.04.2019 г. у 17.00. Замова № 803.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 1500 асобнікаў.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 2,37 руб., 3 мес.- 7,11 руб.
*Кошт у розніцу:* па дамоўленасці.